

*У мінулым: «Версаль Поўначы», гняздо Браніцкіх; у 1920: сядзіба Тымчасовага рэвалюцыйнага камітэта Польшчы; цяпер: Медыцынская акадэмія імя Юльяна Мархлеўскага ў Беластоку. Від з палацовага парку. Аб ТРКП чытайце ў сярэдзіне нумара.*

*Фота — П. Семянюк.*


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК





№ 30 (752) БЕЛАСТОК, 26 ЛІПЕНЯ 1970 г. ЦАНА 60 гр.

Сустрэчы з «Нівай»

## СЛОВА МАЮЦЬ НАСТАЎНІКІ

Сонечным гарачым днём на пачатку ліпеня група журналістаў «Нівы» сустрэлася з настаўнікамі беларускай мовы школ Беласточчыны. Сустрэча была ў новым прыгожым будынку Млячарскага тэхнікума ў Беластоку. З аднаго боку будынка простая, як страла, шырокая Алея Перамогі. З другога — будаўнічыя непаладкі. Сярод раскопак высіцца касмічная па форме будоўля. Калега Міхась паясняе: «Гэта славуты беластоцкі басейн, пра які ўжо многа крытычна напісалі, будуецца ўжо 10 год». Не кіпіць работа і зараз на будове. Ціха... А з неба ліецца жар.

Наша сустрэча і размова з настаўнікамі адбываецца ў вялікім класе. З'ехалася сюды пару дзесяткаў настаўнікаў. Пусцілі дзяцей на канікулы, выправілі на сонца, рэчку і лугі, а самі ў далейшым здабываюць веды. Сабраліся супольна — можна пазнаёміцца, абмяняцца думкамі і вопытам.

Для групы нашых журналістаў была надзвычай прыемнай гэтая непасрэдная сустрэча.

Анна Несцярук, настаўніца з Ахрымоў, «у Белавежскай пушчы», як сама кажа, пачала жывую паўтарыгадзінную дыскусію, якая праляцела мігам.

Настаўнікі, вядома, найперш заняліся «Зоркай»: каб п'ескі ў «Зорцы» былі (даведаліся мы, што Анна Несцярук сама піша п'есы для дзяцей, абяцала прысылаць у рэдакцыю), каб «Зорка» выходзіла самастойна, а не пры «Ніве», каб была каляровая, больш аб'ёмістая, каб больш канцэнтравала ўвагі на класах I—IV, бо старэйшыя класы чытаюць «Ніву».

Настаўнікі падкрэслілі недахопы ў дапаможніках для навучання беларускай мовы і прасілі, каб «Зорка» давала алфавітныя літаркі, якія можна вырэзваць і складаць.

Вельмі цікавымі былі разважанні на тэму школьнай літаратуры па беларускай мове. Такой літаратуры вельмі мала. У некаторых школьных бібліятэках яе да 15-ці прац. той колькасці, якая павінна быць, а ў іншых школах толькі 5%. Нельга такой літаратуры і купіць у дастатковай колькасці. Настаўнікі падалі тут свае думкі, як рэдакцыя магла б памагчы школам. Можна б у «Ніве» друкаваць апавяданні так, каб можна іх потым было складаць, як кніжачку. Замест даўнейшага рэпертуарнага дадатку да «Нівы» можна было б даваць у такой форме патрэбную літаратуру. Пётр Рыжык з Кнарыдаў сказаў канкрэтна: напрыклад апавяданні Маўра. Імі дзеці зачытваюцца, не адарвеш іх ад кніжак гэтага аўтара, але дастаць іх нялёгка. Мо можна было б даваць аповесці Маўра ў дадатку, ці на асобнай староны.

Была выказана думка аб карысцях грампласцінкі з беларускімі казкамі.

Шырокія гарызонты сучасных настаўнікаў, новая методыка навучання вымагае працы з рознымі дапаможнікамі. Радаваць можа такі падыход Анны Несцярук да сваёй працы, у якую ўкладае сваю душу. Яна кажа: «Трапілася мне слова, невядомае па значэнню», як яго вучням выясніць? Зрабіла гэта, даходзячы па сэнсу, і тэксту апавядання. Але вельмі забракла мне тут беларуска-польскага слоўніка. Такі слоўнік у нашых умовах неабходны.

Працяг на стар. 4




## ДЭВІЗ

Дзесяткі ці мо нават сотні раз прыходзілася мне праязджаць праз Галады, ды ніколі не прышлося пабываць там сапраўды — пагутарыць з людзьмі, пахадзіць, паглядзець на вёску ды ваколіцу. Пастанавіў я тады наведаць Галады ў ролі пешахода.

Галады ляжаць уздоўж шашы з Бельска ў Гайнаўку, у некалькіх кіламетрах ад Бельска. Блізкасць павятовага цэнтра і лёгкі даезд да яго дазваляе меркаваць, што ўсё тут па-сучаснаму, нават па-гарадскому. А тым часам...

Сустракаю ў летні дзень на вуліцы групку мужчын, ды заводжу з імі гутарку аб галадоўскіх буднях. Сяляне мне гавораць: «Адзін балаган у нашай вёсцы і больш нічога». І ў доказ расказваюць:

— Электрыфікацыю вуліцы і тую зрабілі нам толькі да паловы. Другая палова вуліцы, як самі бачыце, не электрыфікавана. Дванаццаць год ужо роскашшу электрычнага свету поўнасцю карыстаецца толькі адзін канец вёскі. У другім канцы цёмна.

А ведаеце, як гэта здарылася? Проста. Прыехалі электраманцёры, затрымаліся ў каменданта пажарнай каманды, ды сказалі: «Будзем рабіць электрыфікацыю вуліцы, але ідзіце пашукайце недзе «паўлітра». Камендант сказаў людзям: «Прыехалі манцёры, пачалі рабіць электрыфікацыю вуліцы, але кажуць, што трэба ім паставіць паўлітра». Людзі сказалі: «Што мы ім маем ставіць, яны ж зарабляюць — хай сабе ставяць самі». Манцёры, не дачакаўшыся гарэлкі, злезлі са стаўбоў і ад'ехалі адкуль прыбылі, не дакончыўшы работы. Прайшло ўжо 12 гадоў з таго часу. Манцёры не вяртаюцца да незаконачанай работы.

— Або вось камасацыя. Зрабілі ў нас год таму назад камасацыю грунтаў. Поле парэзалі на кавалкі, а лес па-далейшаму застаўся ў цераспалосіцы. Палоскі ў лесе вузенькія, па паўметра, а то і яшчэ вузейшыя — да 35 сантыметраў. А сосны ў нас тоўстыя, многа таўсцейшыя ад палосак і растуць як папала. Сам чорт не разбярэ, каторае тут чыё дрэва. Таму ў лесе, хто мацнейшы, той лепшы — кожны рэжа сабе тыя дрэвы, якія яму больш падабаюцца.

Прасілі мы землямераў, каб падзялілі паміж нас не толькі зямлю, але і лес. Землямеры сказалі: «Падзелім, але раней самі пагадзецеся паміж сабою, каму па колькі і як яго дзяліць, бо мы знаемся на якасці глебы, але не знаемся на якасці лесу». Пачалі мы даходзіць паміж сабою да ладу. Страцілі на гэта некалькі дзён, сварачыся заўзята ад гадзіны дзесятай раніцы да дзесятай вечара. Ды разышліся з нічым. Дзяліць павінен нехта адзін, а не ўся грамада. Землямеры хочуць, каб дзялілася паміж сабою ўся грамада.

— Такі самы балаган і з нашым сельскагаспадарчым гуртком. Прасілі мы ўлад, каб прылучылі нас да машынатрактарнай базы ў Парцаве, а нас прылучылі ла Шчытоў. Шчытоўская база мае ўжо 7 трактараў, а атрымаць нам трактар надта цяжка. Атрымліваем у

Працяг на стар. 4

*СЕНАКОСЫ*

*Ураджай сена ў бягучым годзе вельмі добры. Нават на малаўраджайных, на немеліяраваных і незагаспадараных сенажацях трава была і вялікая, і густая. Значыць, пашы з сёлетніх сенажацяў будзе значна больш. Ды наогул пагода спрыяла і яшчэ вельмі добрая да сушэння сена. А там, дзе было даволі мокра, за апошнія пагодныя дні падсохла, і сенаванне там у поўным разгары. (СС)*

*Фота Цаф — Сянько*



# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

 СВЕТ  БССР  ПОЛЬШЧА  ВАЯВОДСТВА

### XXIV З'ЕЗД КПСС

13 ліпеня 1970 г. адбыўся Пленум ЦК КПСС. Пленум разгледзеў пытанне аб скліканні чарговага XXIV з'езда КПСС.

У прынятай на Пленуме пастанове гаворыцца, што з'езд будзе скліканы ў сакавіку 1971 года. Зацверджаны парадак дня з'езда прадугледжвае: 1) справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэта — дакладчык Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. Брэжнеў, 2) справаздачны даклад Цэнральнай рэвізійнай камісіі КПСС — дакладчык старшыня рэвізійнай камісіі Г. Сізаў, 3) дырэктывы XXIV з'езда КПСС па пяцігадовому плану развіцця народнай гаспадаркі СССР на 1971—1975 гады — дакладчык Старшыня Савета Міністраў СССР — А. Касыгін.

Пастанова Пленума ЦК устанавіла наступныя нормы прадстаўніцтва на XXIV з'езд КПСС: адзін дэлегат з рашаючым голасам ад 2900 членаў партыі і адзін дэлегат з дарадчым голасам ад 2900 кандыдатаў у члены партыі.

### ПАСТАНОВЫ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

На першай сесіі Вярхоўнага Савета СССР восьмага склікання выбраны новы Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і ўтвораны ўрад Савецкага Саюза — Савет Міністраў Саюза ССР.

Прэзідыум Вярхоўнага Савета складаецца з 36 членаў. Старшынёй яго застаўся М. Падгорны.

Старшынёй Савета Міністраў СССР выбраны А. Касыгін, а яго першымі намеснікамі засталіся К. Мазураў і Дз. Палянскі. Апрача таго ў склад новаўтворанага ўрада СССР уваходзяць: 9 намеснікаў старшыні Савета Міністраў; 57 міністраў; 11 старшынь камітэтаў, аб'яднанняў і праўленняў пры Савеце Міністраў; 15 старшынь Савета Міністраў саюзных рэспублік.

### ЗАЯВЫ

Першая Сесія Вярхоўнага Савета СССР восьмага склікання, разгледзеўшы становішча, што склалася ў раёне Індакітая, адзначае, што агрэсія Злучаных Штатаў Амерыкі супраць міралюбівых народаў Індакітая ўступіла ў новы небяспечны этап.

У сувязі з гэтым Вярхоўны Савет СССР звяртаецца з заклікам да парламентарыяў усіх краін і да ўсіх людзей добрай волі ўзняць голас пратэсту супраць агрэсіўных дзеянняў амерыканскага ўрада ў Індакітаі і рашуча выступіць за неадкладны, поўны і безагаворачны вывад войск ЗША і іх саюзнікаў з гэтага раёна. Неабходна прымусіць урад ЗША строга захоўваць Жэнеўскія пагадненні 1954 і 1962 гадоў, прытрымлівацца агульнапрызнаных норм міжнароднага права.

У заяве аб становішчы на Блізкім Усходзе гаворыцца, што дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР перакананы, што за умовах, калі безразважныя дзеянні ізраільскіх кіраўнікоў ствараюць рэальную пагрозу для міжнароднага міру і бяспекі, ні адзін парламент і ні адзін парламентарый не могуць стаяць у баку. Каму дарагія ідэалы міру, свабоды і незалежнасці народаў, асуджэнне і ізаляцыя агрэсара і яго апекуноў заклікаюцца прымусіць іх адмовіцца ад працягу авантурыстычнага курсу. (ак)

### ПЛЕНУМ

Адбыўся трэці пленум Цэнтральнага Камітэта Ленінскага камуністычнага саюза моладзі Беларусі. На пленум былі запрошаны першыя сакратары гарадскіх і раённых камітэтаў камсамола, група перадавікоў прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, работнікаў навукі, кіраўнікі шэрагу міністэрстваў рэспублікі.

Пленум разгледзеў удзел камсамольскіх арганізацый Беларусі ў развіванні навукова-тэхнічнага прагрэсу, а таксама справу рэалізацыі крытычных заўваг і прапаноў, якія былі выказаны ў час справаздачна-выбарчай кампаніі і на XXIV з'ездзе беларускага камсамола.

Даклад па першаму пытанню меў сакратар ЦК Уладзімір Падрэз. У спрэчках па дакладу выступілі С. Максімюк — майстар Баранавіцкага бавоўнянага камбіната, М. Мурэня — прараб Гродзенскага завода капралантаму, У. Сіняеў — старшыня Беларускай рэспубліканскай рады студэнцкіх навуковых таварыстваў і іншыя.

### БАЛГАРСКАЯ

Сталіцу Беларусі наведала дэлегацыя Балгарскай камуністычнай партыі на чале з сакратаром ЦК партыі Станко Тодаравым. Госці сустрэліся з кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі — першым сакратаром ЦК П. Машэравым, сакратарамі ЦК А. Смірновым, С. Пілатовічам, У. Міцкевічам, загадчыкамі аддзелаў ЦК Я. Мікуловічам і А. Караткевічам, з міністрам замежных спраў БССР А. Гурыновічам і іншымі асабістасцямі.

### РАПАІ

У Мінску знаходзіўся надзвычайны і паўнамоцны пасол Венгрыі ў Саюзе ССР Дзьюла Рапаі. Госць наведаў м. ін. Выстаўку дасягненняў народнай гаспадаркі Беларусі. У гонар пасла міністр замежных спраў БССР А. Гурыновіч даў снеданне.

### ВЕЧАР

У канцэртавай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі адбыўся вечар польска-савецкай дружбы, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі грамадскасці беларускай сталіцы і супрацоўнікі прамысловай выстаўкі «Зроблена ў Польшчы», што наладжана ў Мінску.

З прамовай выступілі галоўны інжынер мінскага станкабудаўнічага завода М. Гарахавін, намеснік дырэктара польскай выстаўкі У. Вадэцкі, беларуская паэтэса Еўдакія Лось і іншыя.

### ПРАМЫСЛОВАСЦЬ

Прамысловасць Беларускай ССР датэрмінова выканала паўгадовы план па большасці важнейшых відаў вырабаў.

Аб'ём прамысловай вытворчасці ў першым паўгоддзі гэтага года ў параўнанні да першага паўгоддзя мінулага года павялічыўся на адзінаццаць працэнтаў.

### «МАЛАДОСЦЬ»

У літаратурна-грамадскім штомесячніку «Маладосць» № 6 змешчана ў перакладзе на беларускую мову падборка вершаў польскіх паэтаў. (С. Я.)

### АДЗНАЧЭННІ

Напярэдадні Свята адраджэння Польшчы адбылася ў Варшаве ўрачыстасць адзначэння высокімі дзяржаўнымі ўзнагародамі 196 выдатных даследчыкаў, канструктараў, мастакоў і пісьменнікаў. Узнагароды з'яўляюцца высокім прызнаннем вялікага ўкладу вучоных і мастакоў у развіццё нацыянальнай культуры і навукова-тэхнічнай думкі.

### ГАСПАДАРКА

Летняя пара не стрымала ходу работ камісій па справах выканання пастаноў V Пленума ЦК партыі. У большасці прадпрыемстваў закончылася ўжо арганізацыйная падрыхтоўка, камісіі прыступілі да карпатлівага аналізу выбраных галін гаспадаркі, асабліва тых, што будуць мець найбольшае значэнне для паляпшэння эканамічных эфектаў будучай 5-годкі.

### ФІНАНСАВЫЯ ЗЛАЧЫНСТВЫ

Сейм падрыхтоўвае пастанову аб пакараннях за фінансавыя злачынствы. Праект пастановы акрэслівае пакаранні за дэвізныя і тамажныя злачынствы, нелегальны гандаль, падатковыя ашуканствы і іншыя злачынствы, якія прыносяць страты дзяржаўнай фінансавай сістэме.

### АЛКАГАЛІЗМ

Падлічана, што на працягу 1969 года здарылася больш 32 тысяч няшчасных выпадкаў у працы, прычынай якіх было піццё гарэлкі ў працы або перад працай. Кожны няшчасны выпадак пры працы абыходзіцца нацыянальнай гаспадарцы ў сярэднім каля 50 тысяч злотых. Такім чынам гадавыя страты, выкліканыя няшчаснымі выпадкамі ў працы з прычыны злоўжывання алкаголем, дасягаюць у гадавым маштабе 1 мільярд 600 мільёнаў злотых.

### БУДАЎНІЦТВА

Усё яшчэ адчуваецца недахоп у продажы будаўнічых матэрыялаў. Каб сітуацыю гэтую выправіць, Сеймавая камісія будаўніцтва і камунальнай гаспадаркі высунула прапанову, каб давесці да магчыма хуткага збалансавання патрэб у галіне будаўнічых матэрыялаў на 1971—1975 гады з прадукцыйнымі планамі ўсіх галін гаспадаркі, якія прадукуюць гэтыя матэрыялы.

### СТАНДАРТ

Калегія Міністэрства цяжкай прамысловасці і Польскі нармалізацыйны камітэт правялі ацэнку якасці нашых металургічных вырабаў, параўноўваючы да сусветных нормаў якасці. Аказалася, што якасць іх ніжэйшая ад міжнароднага стандарту якасці. Аналіз дапаможа пазбегнуць шэрагу недахопаў.

### ВЕНЕРЫЧНЫЯ ХВАРОБЫ

Міністэрства здароўя і грамадскай апекі апрацавала шырокую праграму барацьбы з венерычнымі хваробамі. Пры прэзідыумах ваяводскіх рад народных ствараюцца зараз камісіі па барацьбе з гэтымі хваробамі, прыдзелены адпаведныя фінансавыя сродкі і забяспечаны памяшканні. У гэтым годзе пачнецца масавая праверка выпадкаў захворвання на сіфіліс. (уп)

### ПРАКУРАТУРЫ — 20 ГОД

У сувязі з 20-годдзем арганізавання пракуратуры і 26-ай гадавінай Народнай Польшчы ў I сакратара ВК ПАРП А. Лашэвіча адбылася сустрэча Генеральнага пракурора ПНР К. Кашціркі з кіраўніцтвам Ваяводскай пракуратуры ў Беластоку і павятовымі пракурорамі Беластоцкага ваяводства. На гэтай сустрэчы была зроблена ацэнка працы пракуратур нашага ваяводства.

Пасля сустрэчы, у зале Ваяводскага суда, адбылася ўрачыстая акадэмія. З дакладам выступіў Е. Шыманік. Высокія дзяржаўныя ўзнагароды атрымалі Е. Шыманік, Г. Вінніцкі, Ул. Леўгаўд і іншыя.

### УЗНАГАРОДЫ ЗАСЛУЖАНЫМ

Напярэдадні свята Адраджэння ў Прэзідыуме Ваяводскай рады ў Беластоку адбылася ўрачыстасць уручэння ганаровых адзнак «Заслужаны для Беласточчыны». Сярод 142 узнагароджаных — грамадскія дзеячы, працаўнікі розных прадпрыемстваў, якія шмат гадоў ахвярна працуюць на карысць нашага горада і ваяводства.

### ЗАКЛІК ДА МОЛАДЗІ

Хутка жніво. Сёлета гэтая гарачая пара будзе асабліва цяжкай у сувязі са спозненым даспяваннем збожжа і звалам жніўнай працы на пачатак апошняга летняга месяца. У сувязі з гэтым Ваяводскае праўленне ЗМВ і Акруговае праўленне ОСП выступілі з заклікам да ўсіх дзяўчат і хлопцаў ЗМВ і ўсёй вясковай моладзі, каб памаглі ў гэты гарачы час. Заклік аб'яўлены пад лозунгам «Кожны колас на вагу золата» і «Ніводзен колас не можа згарэць». Адозва заклікае моладзь дапамагаць у рамонтах сельскагаспадарчых машын, ствараць групы дапамогі інвалідам, адзінокім і старым людзям, сем'ям хлапцоў, якія цяпер праходзяць вайсковую службу. Неабходна таксама арганізаваць апеку над дзецьмі ў час жніва. Гэта дапамога пазбегнуць няшчасцяў (пажараў, выпадкаў утаплення), прычынай якіх вельмі часта бывае дзіцячая несвядомасць. У заклiку гаворыцца таксама аб захаванні максімальнай асцярожнасці пры карыстанні агнём. Гурткі ЗМВ павінны ўтрымоўваць пастаянны кантакт з членамі ОСП.

### ЗАМЕЖНЫЯ ПРАКТЫКАНТЫ

У Беластоцкай медыцынскай акадэміі прабываюць на студэнцкай практыцы госці з чатырох медінстытутаў суседніх краін: з Крымскага медінстытута ў Сімферопалі (СССР), будучыя медыкі з Кошыц (Чэхаславакія) і з Дрэздэна (ГДР). Замежныя студэнты наведалі ўжо розныя беластоцкія клінікі і навуковыя медыцынскія ўстановы. У гэты ж час група беластоцкіх студэнтаў знаходзіцца на практыцы ў Кошыцах, а ў жніўні дзве групы студэнтаў паедуць у Сімферопаль і Дрэздэн.

### ВСІ АТРЫМАЕ СЦЯГ

Прэзідыум ВК Фронту адзінства народа выступіў з прапановай прызнаць сцяг Вышэйшай інжынерскай школе за яе ўклад у развіццё Беласточчыны. Урачыстасць уручэння сцягу адбудзецца на адкрыцці новага навучальнага года. (яч)




**Niedziela — 26.VII.**

8.45 Program dnia. 8.50 Przypominamy, radzimy. 9.00 „Zaczarowany kożuszek" — film — odc. V. 9.30 Dla młodych widzów: „Tutaj śpiewał Orfeusz". 10.00 Przerwa. 11.55 Program dnia. 12.00 Występ Zespołu „Czobonasz" (Kiszyniów). 13.00 Dziennik. 13.15 Przemiany. 13.45 Zespół Pieśni i Tańca Stalowa Wola. 14.15 „Kiedy decydują sekundy" — nowela filmowa franc. 14.50 Teatrzyk dla Przedszkolaków „Źródło na wysokiej górze". 15.30 „Jesteśmy na wczasach" — cz. II („W starym kinie"). 16.30 Klub Sześciu Kontynentów. 17.10 PKF. 17.20 Estrada Literacka „Jodły podniebne" („Strofy poezji świata" — liryka rumuńska). 18.15 „Z powinszowaniem imienin" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pory roku" — telewizyjny film dokument. („Polska") odc. VII — ostatni. 20.10 „Kariera panny Mariorie" — film fab. ang. 21.45 „Z piosenką przez Sycylię" — włoski film rozrywkowy. 22.10 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek — 27.VII.**

16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Teleferie. 17.30 „Echo stadionu". 17.40 „Tramp". 18.00 „Spacerkiem po kinach". 18.30 Magazyn Postępu technicznego. 19.00 „Niepokonana" — rep. film. Tele-Aru (o Wietnamie). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pamięć" — film dok. TVP („Polska"). 20.10 VII Festiwal Teatrów Dramatycznych: St. Wyspiański — „Klątwa". 21.20 „Proch z kapustą" — felieton film. 21.40 „Kino Filmów Animowanych". 22.10 Dziennik.

**Wtorek — 28.VII.**

10.00 „Don Kichot" — film fab. radz. 11.30 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 18.50 „Żołnierski dzień" — rep. film. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 19.55 „Miska ryżu" — rep. film. Tele-Aru (o Wietnamie). 20.10 „Don Kichot" — film fab. radz. 21.45 „U stóp góry Mtacminda" — rep. film. z Gruzji. 22.20 Dziennik.

**Środa — 29.VII.**

10.00 „Małżeństwa z rozsądku" — film fab. czechosł. cz. I. 11.25 Przerwa. 16.50 Dziennik. 17.00 Teleferie. 18.10 TV Kurier Warszawski. 18.25 Magazyn ITP. 18.35 „Na Mokotowie" („Spacery Warszawskie"). 19.05 „Węgiel nad Ha Longiem" — rep. film. Tele-Aru (o Wietnamie). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Małżeństwa z rozsądku' — film fab. czechosł. cz. I. 21.35 „Światowid". 22.05 PKF. 21.15 „Szczęśliwy książę — balet rum. 22.40 Dziennik.

**Czwartek — 30.VII.**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół podstawowych: „Nauka o rzutach w klasie VIII" cz. I i II. 9.50 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 „W gościnnym Amsterdamie" — film dok. holend. 17.40 „W namiocie" — film radz. 17.55 „Nie tylko dla pań". 18.15 „Kodeks i gospodarka". 18.45 „Lektury współczesne". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Po prostu jazz". 20.30 Reportaż. 21.00 „Zwyciężeni" — film fab. franc.-wł. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 31.VII.**

8.15 Matematyka dla nauczycieli szkół średnich: „Wprowadzenie w teorię maszyn matematycznych". 10.00 „63 dni" — film dok. pol. 10.50 Przerwa. 16.45 Program dnia. 16.50 Dziennik. 17.00 Teleferie. 18.30 TV Kurier Mazowiecki. 18.45 „Skansen nad Narwią" („Wielcy znani i nieznani" — Adam Chętnik). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Piwo" — film TVP. 20.30 „Kraj". 21.10 „63 dni" — film dok. pol. 22.05 Dziennik.

**Sobota — 1.VIII.**

10.00 „Powrót na ziemię" — film fab. pol. 11.25 Przerwa. 16.10 Program dnia. 16.15 Program tygodnia. 16.35 „Oferty". 16.45 Dziennik. 17.00 Transmisja z półfinału Pucharu Europy mężczyzn w lekkoatletyce (Helsinki). 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 „Powrót na ziemię" — film fab. pol. 21.45 Dziennik. 22.05 Kabaret Starszych Panów: „Piosenka jest dobra na wszystko".




**Piątek, 24 lipca**

8.05 Nowiny. 8.15 Dla uczniów. 8.45 Film fab. 10.30 Czyn. 11.00 Koncert. 11.40 Nowiny. 14.50 Program dnia. 14.55 Nowiny. 15.00 Dla dzieci. 15.20 Panorama nowin. 15.30 Mecz lekkoatletyczny ZSRR — USA. 18.30 Czas. 19.00 Cyrk w studio. 19.45 Spektakl TV. 21.00 Koncert. 21.40 Nowiny.

**Sobota, 25 lipca**

8.00 Koncert orkiestry wojskowej. 8.45 Przegląd międzynarodowy. 9.00 Program muzyczny. 9.45 Spektakl teatralny. 12.30 Ziemia i ludzie. 13.00 W świecie zwierząt. 14.00 Kronika półwiecza. Rok 1944. 15.00 Puchar ZSRR w piłce nożnej. Półfinał. „Dynamo" (Moskwa) — „Dynamo" (Kijów). 17.35 Stawka większa niż życie. 9 seria. 18.30 Czas. 19.00 Kiosk muzyczny. 19.30 Bajka dla dorosłych. 20.30 Koncert z Warny.

**Niedziela, 26 lipca**

8.00 Koncert orkiestry wojskowej. 8.45 Dzień handlowca. 9.15 Kiosk muzyczny. 9.45 Film fab. 11.00 Nauka — produkcji. 11.30 Nad Wołgą. 12.00 Koncert. 13.00 Dla żołnierzy. 13.30 Koncert finałowy konkursu zespołów pieśni i tańca marynarki wojennej ZSRR. 14.15 Dla wsi. 14.45 Koncert orkiestry wojskowej. 15.45 Koszykówka. CSKA — „Dynamo" (Tbilisi). 16.40 Klub filmowy. 17.40 Stawka większa niż życie. 10 seria. 18.35 Siedem dni. 19.05 TV teatr miniatur. 20.15 Koncert. 20.55 Program sportowy. 22.10 Nowiny.

 


Гарадоцкі хор.


Ліда Салавей.

# ФЭСТЫН
## у Рыбаках

Галоўным арганізатарам фэстыну ў Рыбаках быў беластоцкі аддзел (павятовы) БГКТ, які ўзначальвае Віктар Кандрусік. Дзякуючы яго захадам, у арганізацыю фэстына ўключылася грамадская рада нарадовая ў Юшкавым Грудзе, ды з дапамогаю прыйшлі: аддзел культуры павятовай рады нарадовай, ГРН у Гарадку і Міхалове, ГС у Міхалове, сельскагаспадарчыя гурткі ў Сушчы, Багнюках і Рыбаках, мясцовыя актывісты з Рыбакоў і жанчыны з Сушчы.

Напярэдадні фэстына актывісты БГКТ падрыхтавалі лозунгі і плакаты, партрэт Леніна, сцягі і чырвоныя палотнішчы на дэкарацыю трыбуны. А ў нядзелю раніцай, 5-га ліпеня, укапалі трактарныя прычэпы, якія служылі трыбунай і пачалі дэкараваць месца фэстына. З самай раніцы пачалі таксама працаўнікі ГС-у устаўляць свае кіёскі з аранжадаю, півам, з харчовымі прадуктамі, забаўкамі і г. д. Між школаю і рэчкай Нарваю на вялікім пляцы пачало збірацца многа народу. Сабралася сюды больш трох тысяч лачавек з Беластоцкага і Гайнаўскага паветаў. У 12 гадзін пачалася ўрачыстаць. Адкрыў яе старшыня ГРН у Юшкавым Грудзе Рыгор Палецкі. З дакладам «Аб міжнародным значэнні ідэй Леніна і перамозе над нямецкім фашызмам» выступіў старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі.

Наступным пунктам праграмы фэстына былі паказы пажарных каманд, якія гасілі пазараваны пажар.

Вельмі зацікавілі ўсіх спаборніцтвы матацыклістаў, арганізаваныя ЛьЗС-ам. Затым выступіў харавы калектыў з Гарадка і выканаў 18 песень. Ён, як усюды, так і тут збіраў многа апладысментаў. Самадзейнікі з Пянькоў таксама мелі цікавую праграму.

Яшчэ ніколі на фэстынах БГКТ не быў арганізаваны конкурс на беларускую песню. А тут ён быў і вельмі добра ўдаўся. У ім прыняло ўдзел 12 асоб, і ўсім ім каштоўныя рэчавыя ўзнагароды ўручыў кіраўнік аддзела культуры павятовай рады нарадовай у Беластоку Аляксандр Трусяк. Першае месца здабыла Ніна Цыванюк. Дасканала спявала Ліда Салавей — жанчына з Лявонавічаў.

Пасля конкурсу на беларускую песню пачаліся танцы на вольным паветры, якія працягваліся аж да раніцы.

Фэстын уганаравалі сваёю прысутнасцю павятовыя ўлады на чале з сакратаром павятовага камітэта ПАРП Янам Трынішэўскім.

У гэты дзень у Рыбаках, Бандарах, Луцэ, Слабодцы і Рудні амаль у кожнай хаце былі госці. Папрыязджалі сваякі з Беластока і з па-за Беластока, каб адначасова наведаць родзічаў і пабыць на беларускім фэстыне.

Фэстын карыстаўся грамадным зацікаўленнем насельніцтва ўсіх навакольных вёсак. Аб гэтым сведчыць нават такі незвычайны факт — у Рыбаках каровы пасуць чаргою ўсе гаспадары. У гэты дзень не было каму пагнаць кароў на пашу. Так яны і стаялі ў хлявах увесь дзень. Вёскаю вызначана было 200 зл. таму, хто б згадзіўся пасвіць 5-га ліпеня, але такога не знайшлося.

*М. Сваяк*

*Фота — Пётр Семянюк*


Пажатнікі гасяць пазараваны пажар.


Танцы працягваліся аж да раніцы.


Салісткі з Пянькоў.


Конкурс на спраўнасць мотацыкліста.



Да бараў з півам і аранжадай дабівалася многа людзей.



 



*На здымку: Беласток. Вуліца М. Складоўскай.* *Фота — П. Семянюк*

## КВАТЭРЫ Ў БЕЛАСТОКУ

Яшчэ нядаўна Беластоцкі жыллёва-будаўнічы кааператыў, вядомы пад скарочанай назвай БСМ, лічыўся найбольшым будаўніком новых кватэр. На жыллёвае булаўніцтва штогод выдаткоўвае ён каля шасцідзесяці мільёнаў злотых.

Аднак паводле новых статыстычных даных БСМ хутка даганяюць такія кааператывы, як «Захэнта» і «Родзіна колеёва». Калі членаў БСМ 7 488, дык членаў «Захэнты» ужо 6 230. «Родзіна» мае 3 044.

БСМ мае традыцыі. Арганізаваны больш дваццаці гадоў таму назад, здабыў вялікі вопыт дзейнасці. За гэты час пабудаваў каля чатырох з паловаю тысяч кватэр, у якіх жыве каля пятнаццаці тысяч асоб. Гэта велічыня сярэдняга горада ў нашым ваяводстве.

Лік членаў безупынна павялічваецца. Гэта накладае на беластоцкія жыллёва-будаўнічыя кааператывы штораз большыя задачы. У сучасны момант камунальнае будаўніцтва не перавышае пятай часткі ўсяго будаўніцтва. Яно штораз меншае ў сувязі з развіццём кааператыўнага будаўніцтва. (ся)

## У пошуках шчасця

## 917

917. Просты трохцыфровы лік, які можа ашчасліваць таго, хто яго памятае. Не, цыфра 917 не з'яўляецца лікам з Кабалы, хаця і мае пэўныя магічныя ўласцівасці. Гэта проста тэлефонны нумар беластоцкай тэлефоннай цэнтралі, пад якім штодзённа надаюцца гараскопы для ўсіх. Хопіць тады падняць тэлефонную трубку (найлепш у панядзелак з раніцы), набраць нумар 917 і вы даведаецеся аб усім, што вас чакае ў гэтым тыдні.

Мала таго, мілы галасок сімпатычнай, нейкай невядомай вам раней, асобы параіць толкам, чаго ў гэтым тыдні вам асцерагацца, перад чым бараніцца, у якія справы варта ўлазіць, а ў якія — не. Парады ідуць па прынцыпу класічнай астралогіі — у залежнасці ад таго, хто пад якою зоркаю нарадзіўся. Пад якою зоркаю вы нарадзіліся, пані з тэлефоннай трубкі сама ведае, хопіць толькі помніць месяц і дзень свайго нараджэння.

Набярэм тады гэты магічны нумар 917 і паслухаем астралагічныя прадказанні на наступны тыдзень нашага жыцця.

*— Твой гараскоп, — абвяшчае сімпатычны галасок сімпатычнай (так мяркуем) пані, — на гэты тыдзень прадбачвае:*

*У жыцці асабістым уладзіш справу, якая табе здаўна дакучала. Варта аднавіць адно са старых тваіх знаёмстваў. Прыдасца на летні час.*

*Праяві больш дыпламатыі ў службовых справах. Не дайся выперадзіць у поспехах твайму знаёмаму, тым больш, што маеш не меншыя шансы ад яго.*

*Асцерагайся сварак з каханай асобай, — сапсуеш сабе летні настрой.*

*Будзеш мець дробныя фінансавыя клопаты, але неяк іх уладзіш.*

*Не забудзь аб важнай сустрэчы, якую маеш у гэтым тыдні.*

*У сераду нідзе не выязджай!*

*Будзь асцярожны з грашовымі выдаткамі!*

І гэтак далей, і гэтак далей...

Асобы, з якімі я гутарыў, сцвердзілі, што прадказанні сімпатычнага голасу з тэлефоннай трубкі збываюцца ў іх жыцці з аптэкарскай дакладнасцю і што слухаюць яны гэтыя парады сістэматычна з тыдня ў тыдзень.

Веру ім. Кожнае нават найбольш абсурднае прадказанне мае схільнасць здзейсніваецца ў нашым жыцці, пад умовай, што хаця крышачку мы ў яго верым.

Штодзённа афармляю дзесяткі розных спраў — многія з іх здаўна мне надакучылі.

Здаўна падазраю, што многія стараюцца ў многім мяне выперадзіць і што я ад іх зусім не горшы.

Замнога сваруся з каханай асобай (што зрабіць — гэта факт!). Замала асцерагаюся з грашовымі выдаткамі (гэта таксама факт), амаль заўсёды маю дробныя (каб толькі дробныя!) грашовыя клопаты, але заўсёды — дзякуй Богу — неяк з іх выкараскваюся.

Астралагічныя гараскопы, як і ўсе ўвогуле такога роду гараскопы, пабудаваны так, што дзіўным і незвычайным было б, калі б яны не здзейсніліся, а не тое, што яны здзяйсняюцца. Найважнейшае аднак не тое. Слухаючы астралагічныя прадказанні, патрабуецца ад вас нямногага — крышынкі наіўнай дзіцячай веры. У замен атрымліваеце ўзнагароду аграмаднай вартасці для вашага жыцця — пераканане ў касмічнай важнасці звычайных падзей вашага шэрага дня. Наведаў вас, скажам, знянацку адзін са шматлікіх вашых знаёмых. Звычайна была б гэта адна з многіх такога роду сустрэч, якія хутка забываюцца ў пылу штотыднёвых падзей. Калі аднак у вашым гараскопе стаяла, што наведае вас знянацку адна важная асоба, будзе гэта тады не проста падзея, але ПАДЗЕЯ, прадказаная звёздамі, падзея касмічнай важнасці, а наведаўшая вас асоба — не абы якой асобай, але асобай важнай. Вашая сустрэча са знаёмым будзе мець зусім іншы характар, можа ён стацца вам больш блізкім — можа нават нарачоным або мужам.

Або фінансавыя клопаты. Зусім іншая рэч звычайныя фінансавыя клопаты звычайнага шэрага чалавека, а іншая — клопаты, прадказаныя ў звёздным гараскопе. Зоркі часта бываюць балаўлівымі, але рэдка бываюць лютымі і таму ёсць надзея, што нашыя фінансавыя клопаты неяк нам развяжуць.

А праўленню тэлекамунікацыі пахвала — ведае як ашчасліўіць людзей. Пры тым — трэба ведаць — вельмі танным коштам. Бо гараскопы чытае не нейкая там сімпатычная пані, а перадаюцца яны механічна з магнетафонных плёнак, на якіх запісаны гэтыя астралагічныя перадачы на ўвесь год.

РЫГОР ПАЎЛЮК

значае, што Беларусін дасканала знаў царкоўнае і свецкае харавое мастацтва. Карпатарускі гісторык падкрэслівае, што многія даныя, у тым ліку яго ўласнаручная заява, даюць падставу сцвярджаць, што Канстанцін Мацязонскі быў беларусам. Гэта падкрэслівае і яго псеўданім, які нельга лічыць выпадковым.

Канстанцін Беларусін у гады падаўлення венгерскай рэвалюцыі 1849 года хаваўся ад казацкіх атрадаў, уступіўшых на землі Закарпацця для барацьбы з венгерскім вызваленчым рухам. Гэта дае яшчэ адзін повад для меркавання, што ён з'яўляўся праціўнікам царскай улады.

Канстанцін Беларусін адыграў велізарную ролю ў развіцці музычнай культуры ў Галіцыі і Закарпацці. Ён быў распаўсюджвальнікам рускіх і беларускіх народных песень на Усходзе, выхаваўцам маладых музычных і харавых кадраў.

Памёр ён у снежні 1858 года ў Ужгарадзе і пахаваны на прыгонных могілках. Надпіс на помніку гаворыць, што «Тут спачывае Канстанцін Беларусін, заснавальнік хораў. На вечную памяць удзячныя нашчадкі».

Далёка ад радзімы занёс лёс таленавітага чалавека, які так любіў вольналюбівую песню, які сваім прозвішчам выбраў назву свайго народа, сваёй роднай зямлі.

ПАНЦЕЛЯЙМОН ЮР'ЕЎ




### РЭЛІГІЙНЫЯ СЕКТЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Наш рэдакцыйны калега, *рэд. Уладзімір Паўлючук* апублікаваў у «Эўгемеры» за 1970 г. артыкул п. з. «Развіццё сектаў у праваслаўных грамадскасцях Беласточчыны» *.

Аўтар падае дакладныя даныя адносна колькасці сектаў, а таксама геаграфічнае іх распалажэнне. Цэнным у даследаванні з'яўляецца і той факт, што аўтар скрупулёзна падае дынаміку змен паасобных збораў і сект на Беласточчыне, пачынаючы ад перадваеннага перыяду па 1968 год.

Праводзячы даследаванні над сектамі, У. Паўлючук дайшоў да цікавых вывадаў. Як вядома, рэлігійныя секты, а асабліва секты крайне містычныя, у вясковых асяроддзях выступаюць вельмі рэдка, так як гэтыя асяроддзі найчасцей маюць адно веравызнанне. Беласточчына ў гэтым з'яўляецца цікавым выключэннем. Аўтар публікацыі сцвярджае, што пачынаючы ад 20-х гадоў нашага стагоддзя ва ўсходніх паветах Беластоцкага ваяводства распаўсюджваюцца розныя рэлігійныя секты. Круг дзейнасці гэтых рэлігійных груп пакрываецца з тэрыторыяй праваслаўшчыны, але не пакрываецца з беларускім этнаграфічным абшарам.

У. Паўлючук высняе, што эканамічна-грамадскім фонам гэтай з'явы была эканамічная адсталасць (трохпалёўка і цераспалосіца), руіна гаспадарак з прычын масавай рэпатрыяцыі ўглыб Расіі, грамадскі радыкалізм, масавае развіццё рэвалюцыйных арганізацый, гвалтоўны распад традыцыйнай народнай культуры, падзенне традыцыйных аўтарытэтаў і традыцыйных маральных прынцыпаў.

Усе аналізаваныя секты аўтар дзеліць на дзве групы. Да адной залічае секты, маючыя «баптыстычны» характар, якія праз рэлігійнае сузіранне або экстаз хочуць вырашаць або лагодзіць адвечныя эсхаталагічныя (эсхаталогія — містычнае вучэнне аб неабходным канцы свету і чалавека) і лёсавыя праблемы людской адзінкі, а да другой «адвентыстычныя» секты, якія на першы план высоўваюць незвычайнасць нашых часоў і хуткі канец свету, прычынай якога, як сцвярджаюць «адвентысты», ёсць існуючы ў свеце беспарадак і несправядлівасць.

У артыкуле гаворыцца, што ўсе гэтыя веравызнанёвыя групы маюць характар рэлігійна-радыкальны, адкідаюць яны царкоўную традыцыю, сэнс існавання царкоўнай арганізацыі, рэлігійную абрадавасць і т. п.

Генеральна беручы, сцвярджае Паўлючук, у канцы міжваеннага дваццацігоддзя амаль у кожнай праваслаўнай вёсцы існавала чатыры групы насельніцтва з розным светапоглядам (праваслаўныя; члены сект; члены Грамады, КПЗБ; групы нігілістычна настаўленай моладзі).

У заключэнні публікацыі аўтар задае вельмі цікавае пытанне: чаму жывучы больш-менш у аднолькавых умовах адзін з членаў вясковай грамадскасці стаецца баптыстам, іншы адвентыстам, яшчэ іншы застаецца праваслаўным або ўступае да палітычнай партыі? Трэба памятаць, што ў гэтыя групы ўступалі людзі і багатыя і бедныя, з рознай ступенню адукацыі, інтэлігенцыі і аўтарытэту ў асяроддзі. А гэта абазначае, што знайшліся тут таксама людзі здаровыя, добрыя гаспадары, маючыя ў вёсцы аўтарытэт.

Высвятленне гэтай з'явы, піша У. Паўлючук, трэба шукаць у культуровай сітуацыі гэтай грамадскасці, якая ў пэўнай меры набліжала ўсе адзінкі да ўмоваў «грамадскага маргінэсу». Распадалася культуровая група, якая была для адзінкі замкнутым светам, што дае пачуццё стабільнасці і пэўнасці, а адначасова дае сістэму абгрунтавання дзеянняў.

Артыкул У. Паўлючука вельмі багаты, паказваючы на цікавыя працэсы сярод грамадскасці Беласточчыны.

*А. КАРПЮК*

*) Euhemer — Przegląd Religioznawczy, 1970, nr 1(75): Włodzimierz Pawluczuk — „Rozwój sekt w prawosławnych społecznościach Białostocczyzny''.

### 50 ГОД ТАМУ НАЗАД

## ТЫМЧАСОВЫ РЭВАЛЮЦЫЙНЫ КАМІТЭТ ПОЛЬШЧЫ

30 ліпеня 1920 г. на польскай тэрыторыі, у ходзе ваенных дзеянняў часова занятай Чырвонай Арміяй, узнік першы ў Польшчы рабоча-сялянскі ўрад — Тымчасовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы. Выконваў ён уладу на 1/4 тагачаснай этнаграфічна польскай зямлі і абымаў Беластоцкае ваяводства, Седлецкую зямлю з Люблінскага ваяводства і правабярэжную частку Варшаўскага ваяводства. Сядзібай ТРКП быў Беласток.

Узначаліў Тымчасовы рэвалюцыйны камітэт Польшчы Юльян Мархлеўскі, які кіраваў адначасова эканамічным аддзелам Камітэта, што абымаў чатыры вялікія галіны эканамічнага жыцця: прамысловасць, сельскую і лясную гаспадаркі, фінансы. Сакратаром ТРКП быў Эдвард Прухняк, а ў склад Камітэта ўвайшлі яшчэ: Фелікс Дзяржынскі, Фелікс Кон, Юзэф Уншліхт. Апрача гэтага ТРКП меў упаўнаважаных, якія ад яго імя кіравалі паасобнымі галінамі гаспадаркі. Напрыклад, упаўнаважаным па справах прамысловасці быў Бернард Закс (Нэрскі), па справах сельскай гаспадаркі — Стэфан Гэльтман, па справах лясніцтва — Станіслаў Бабінскі, па справах асветы — Ядвіга Машынска-Гэльтман. Органам ТРКП была газета «Гонец Чэрвоны».

Праграма ТРКП была аб'яўлена ў двух дакументах, выдадзеных 30 ліпеня 1920 г. Першым быў «Камунікат», другім — «Маніфест да польскіх працоўных гарадоў і вёсак». Апрача гэтага, адносіны ТРКП да аграрнага пытання былі шырэй насветлены ў асобнай адозве «Да польскіх сялян» (5 жніўня 1920 г.). Згодна з гэтымі дакументамі, Камітэт выконваў функцыю Тымчасовага рэвалюцыйнага ўраду Польшчы, які сваім галоўным заданнем лічыў барацьбу за стварэнне Польскай Савецкай Рэспублікі, якая ў сваім класавым змесце была б рабоча-сялянскай рэспублікай. Сваю дзейнасць на тэрыторыі правабярэжнай Віслы лічыў як першы крок на гэтай дарозе. Аб канчатковым грамадскім ладзе Польшчы меў — згодна з Маніфестам — вырашыць агульнакраёвы З'езд рабочых дэлегатаў гарадоў і вёсак, які меў быць скліканы пасля звяржэння буржуазна-памешчыцкай улады ў Польшчы.

Затым дакументы фармулявалі заданні ў палітычнай, эканамічнай і грамадскай галінах, ажыццяўленне якіх ТРКП лічыў першапланавымі. Адміністрацыйную ўладу ў гарадах мелі пераняць рады рабочых дэлегатаў, а ў грамадах — грамадскія рады. Прадбачвалася стварэнне рэвалюцыйных камітэтаў і народнай міліцыі. Грамадскае жыццё мела быць дэмакратызавана. Фабрыкі, шахты і фальваркі мелі быць нацыяналізаваны і перайсці ва агульнанацыянальную ўласнасць. Кіравалі б імі фабрычныя і фальваркавыя камітэты. У будучыні з земляў, аднятых у абшарнікаў, мелі ўзнікнуць дзяржаўныя гаспадаркі. Гарантавалася непарушнасць сялянскай зямлі.

Апрача гэтага, праграмныя дакументы тлумачылі польскаму грамадству характар і класавы змест польска-савецкай вайны, як вайны несправядлівай, грабежніцкай і контррэвалюцыйнай з боку польскіх пануючых класаў, а таксама прычыны часовага ўваходу на польскія землі Чырвонай Арміі.

Нягледзячы на кароткі перыяд дзейнасці ТРКП, шмат з праграмных асноў было ажыццёўлена. Ва ўсіх большых цэнтрах былі створаны рэвалюцыйныя камітэты: у Седльцах, Ломжы, Астралэнцы, Лапах, Высокім Мазавецкім, Міхалове, Бельску, Радзыміне і інш. Арганізавана была народная міліцыя. Прамысловыя прадпрыемствы былі нацыяналізаваны і перададзены фабрычным камітэтам. Пачалі працаваць беластоцкія тэкстыльныя фабрыкі. Адбудаваны былі галоўныя чыгуначныя дарогі. Пачалі працаваць школы і служба аховы здароўя. Касцёл быў адлучаны ад дзяржавы. Уведзена была свабода слова, друку, аб'яднанняў і сходаў. Сяляне былі вызвалены ад векселевых і банкавых даўгоў. Не праведзены быў аднак падзел памешчыцкай зямлі, бо ТРКП займаў становішча нетыкальнасці фальваркаў, прадбачваючы ў будучыні пераўтварэнне іх у вялікія дзяржаўныя гаспадаркі.

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### САЛАТЫ З КАПУСТЫ

Пра капусту, пра яе дасканалыя якасці, мы ўжо пісалі ў мінулым нумары. Думаю, што даволі добра ўдалося нам абгрунтаваць сваю думку аб неабходнасці спажыцця гэтай адной з найбольш папулярных гароднін. Ужыванне капусты аднак не павінна абмяжоўвацца варанымі патравамі. Капусту перш за ўсё трэба, ды проста неабходна, есці сырую. Не кожны аднак можа ўзяць у руку ліст капусты і хрумстаць як заяц.

Таму мы вырашылі падаць сёння пару рэцэптаў на салат з капусты.

Наогул салаты з капусты робяць па-рознаму: і са смятанай, і з маянезам, і з алеем. Некаторыя любяць з воцатам. Кожны салат па-свойму добры. Адным словам, я б сказала, што можна яго рабіць з тым, што будзе пад рукой; важна толькі, каб была капуста.

Найпрасцейшыя салаты робяць з белакачаннай капусты, дадаючы крыху цыбулі (заправа-любая); многія дадаюць яшчэ пры гэтым памідоры, або свежыя агуркі, або сцертае на тарцы для буракоў яблыка, або адно, другое і трэцяе разам.

Можна зрабіць і больш вытворны салат з белакачаннай капусты, дадаючы да нашаткаванай капусты сцерты на тарцы агурок, яблыка і невялікі селер, а таксама ачышчаныя ад семячак і нарэзаныя палосачкамі струкі чырвонага перцу. Гэты салат запраўляюць маянезам, пасыпаюць зялёнай пятрушкай.

Найважнейшае, аб чым нельга забыцца, гэта тое, што капусту, нашаткаваўшы, неабходна пасаліць і адразу ж моцна адціснуць рукамі, або пакінуць на паўгадзіны, каб пастаяла. Капуста тады стане мяккая і смачная. Толькі тады можна яе мяшаць з іншымі даткамі.

Можна рабіць салаты і з чырвонай, і з валошскай капусты.

Не часта прыходзіцца есці ў рэстаране добры салат з чырвонай капусты. Найчасцей капусту там пераварваюць, яна становіцца мяккай і нясмачнай. А яе ж, нашаткаваўшы, нельга абварваць у гатуючайся, падсоленай вадзе даўжэй, чым 4 мінуты. Адварыўшы, трэба выламыць капусту на сіта, дадаць сцертае на тарцы яблыка, крыху нарэзанай цыбулькі, соль і цукар, папырскаць лімонным сокам, дадаць алею. Можна таксама пасыпаць салат дробна нарэзанай зялёнай пятрушкай.

Салаты з капусты не толькі маюць вялікую вартасць, яны дасканала папраўляюць смак кожнага мяса. Салаты можна падаваць як да гарачага мяса, так і да халоднага. Некаторыя падаюць салаты з капусты нават як асобнае блюда.

Прыемнага апетыту на смачныя вітаміны!

*Гаспадыня*

## ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ



СТАРЫ БЕЛАСТОК

*Від фабрыкі Вячоркі. Спецыяльнасцю яе былі: турбіны, тэкстыльныя машыны, чыгуначныя вырабы, шасейныя валы. Размяшчалася фабрыка ў раёне цяперашняй чыгуначнай станцыі (ад мосту да вуліцы Гетманскай). Гравюру, выкананую да першай сусветнай вайны, прынесла ў рэдакцыю старая беластачанка (працавала на гэтай фабрыцы) Кацярына Грыгарук.*



*Маліна Міхальская ў час практыкавання, якое называецца «мудра».*

### ФІЛАСОФІЯ ХАТА-ІОГІ

Паводле старажытна-індыйскай філасофіі, самай высакароднай мэтай, да якой трэба імкнуцца кожнаму чалавеку, з'яўляецца такая ступень унутранай дасканаласці, пры якой чалавечае «Я» траціць самаадчуванне і спалучаецца ў адно з цэлым сусветам. Тады чалавек дасягае становішча *«самадзі»*. Яно даступнае толькі для нямногіх выбраных. Для звычайных смяротных жыхароў гэтага свету, указваюць індыйскія мудрацы, прызначаецца дарога дасканалення свайго «Я», названая *«дармы»*. Гэтая таямнічая «дармы» па сваёй сутнасці з'яўляецца ажыццяўленнем уласцівых кожнаму чалавеку яго жыццёвых, натуральных магчымасцей і талентаў, яго намераў і імкненняў — гэтых вялікіх і малых, штодзённых.

Фундаментам поспехаў у гэтых імкненнях з'яўляецца дасканалае здароўе. Каб захаваць здароўе, каб адчуваць сябе спраўным да старэчага ўзросту — неабходна практыкаваць *Хата-Іогу*. Хата-Іога — гэта свайго роду фізкультурныя практыкаванні і звязаная з імі сістэма дыхання. Паасобныя практыкаванні называюцца на санскрыцкай мове *«асанамі»*. Асноўных асанаў ёсць 84.

Сутнасць гэтых практыкаванняў паказвае сама назва. «Ха» — абазначае «сонца» — сімвал высакародных імкненняў. «Та» — гэта «месяц» — сімвал адмоўных імкненняў. «Іога» — значыць «ярмо». Разам тады Хата-Іога мае абазначаць згоднае суіснаванне ў чалавеку высакародных і адмоўных імкненняў, гармонію між целам і духам. Гэтай гармоніі чалавек дасягае шляхам самакантролю.

У Індыі існуе спецыяльная школа для настаўнікаў Хата-Іогі. Гэтую школу закончыла палячка, *Маліна Міхальская*, якая ў Варшаве вядзе курсы прэктыкаванняў «Хата Іогі». (вр)



*Актрыса Польскага тэатра ў Варшаве Ёлянта Ганіш паказвае адно са старэйшых практыкаванняў сістэмы Хата-Іога, якое называецца «стральба з луку».*

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### РЫБА — СНАЙПЕР

У прыбярэжных водах Індыі, Інданезіі і Паўночнай Аўстраліі жыве невялікая рыба — пырскун, якая трапна страляе струменямі вады па насякомых. Дальнасць палёту струменьчыка 4—5 метраў, а прыцэльная дыстанцыя 1—2 метры. Але і гэта дастаткова, каб падстрэліць муху-разяву або страказу.

Падстрэленыя насякомыя падаюць у ваду і трапляюць у рот пырскуну. Аўтаматычны самастрэл яго нескладаны. У поласці рота, на нёбе, у яго праходзіць глыбокая баразёнка. Калі язык прыціснуты да нёба, шчыліна ператвараецца ў ствол з калібрам 1,5 мм. Пры сцісканні жаберных крышак вада з сілай выкідваецца вонкі. Кончык языка дзейнічае, як клапан, выпускаючы і затрымліваючы ваду. Таму пырскун можа страляць не толькі адзінкавымі стрэламі, але і чэргамі. Нярэдка рыбка страляе ў невядомыя прадметы — у бліскучы шарык, у папяросу, што гарыць, а то і ў вока чалавека. Відаць, памылкова.

### НОВЫ ЭДЫСОН

Паспрабуйце цэлы дзень калыхаць у люльцы плаксу-сястрычку ды яшчэ паспець зрабіць усю работу ў хаце! Для хлопчыкаў на ўсіх пяці кантынентах такая доля заўсёды здавалася гарчэйшай за хіну. З геніяльнай прастатой вырашыў гэту, здавалася б, невырашальную задачу Мітра Дас, трынаццацігадовы індыйскі школьнік са штата Траванкор. Мітра ўхітрыўся прыстасаваць да калыскі мікрафон, узмацняльнік і механічны прывод. Ледзь толькі чулася «уа-уа», як люлька пачынала калыхацца: мікрафон спраўна пераўтвараў плач дзіцяці ў электрычныя імпульсы, а тыя, у сваю чаргу, уключалі механічны прывод.

### ЛЕДЗЯНАЯ МАГІЛА

Звычайна ў курганах — старажытных пахаваннях людзей — знаходзяцца шкілеты, спарахнелыя рэчы. На Алтаі ж, у магіле, размешчанай у вечнай мерзлаце, усё захавалася так, як і пры пахаванні — 25 стагоддзяў назад. І хаця гэту магілу знайшлі каля 40 гадоў назад, цікавасць да яе не згасла і дагэтуль.

У вялікім памяшканні на мяккім лямцавым дыване стаяў выдзеўбаны са ствала дрэва саркафаг, дзе ляжалі два трупы: князя і яго жонкі. Побач знаходзіліся рэчы князёўны: люстэрка, грабеньчык, а на круглым століку — смажаная бараніна і брынза, зусім свежыя. Сабака, якога кіраўнікі экспедыцыі ўзялі з сабой, ахвотна ела княжацкую страву.

На сцяне вісеў прыгожы аксамітны дыван. За перагародкай у суседнім памяшканні ляжалі 14 рыжых коней з па-мастацку аздобленымі папонамі, сёдламі, вуздэчкамі. Ледзяная магіла дае поўнае ўяўленне аб быце старажытных вандроўнікаў.

**ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ «НІВУ»!**

*Летам, 1941 года (3)*




*(З «ВАЕННАГА ДЗЁННІКА» ГІТЛЕРАЎСКАЙ ПАЛІЦЫІ)*

Калі па Белавежскай пушчы з кутка ў куток разносіўся плач і лямант людзей, якіх гітлераўскія паліцэйскія выганялі са сваіх адвечных сяліб, у той час нейкі мясцовы здраднік, звычайная сабака, якая прадае сваіх за кусок хлеба, падсунуў у Белавежы надлоўчаму Шэрпінгу спісак людзей — савецкіх актывістаў.

1 жніўня 1941 года паручнік Уль аднатаваў:

*«(...) На аснове савецкіх пісьмовых матэрыялаў, спіскаў і т. п., якія адносяцца да камуністычных — часткова на кіруючых пасадах — работнікаў у Белавежы і наваколлі, а дасталіся яны сакрэтна надлоўчаму Шэрпінгу ад аднаго з мясцовых жыхараў і датычаць 72 асоб, батальён паліцыі 322 пасля тэлефоннай гутаркі надлоўчага Шэрпінга з СС — групэнфюрэрам фон дэм Бахам, атрымаў заданне: арыштаваць — калі гэта магчымае — тыя ўказаныя асобы і адразу ж іх расстраляць.*

*У сувязі з гэтым камандзір склікаў інструктажную нараду камандзіраў падраздзяленняў на тэму падрыхтоўкі і правядзення гэтага задання...*

*Вельмі горача, часткова хмурна, стан здароўя ў месяцы ліпені задавальняючы. Рэдкія выпадкі гарачкі, выкліканай хваробай кішак...»*

Пераеліся, гадзюкі, сялянскімі курамі, яйкамі і мясам аж «лёгкаходу» падаставалі. Гэта ім аднак не перашкодзіла далей рассяваць смерць і слёзы. Вось наступнага дня — 2 жніўня 1941 года паліцэйскі летапісец хваліўся:

*«...Энергічны пачатак і правядзенне батальёнам запланаванай спецыяльнай акцыі ў Белавежы і наваколлі. З указаных 72 асоб (камуністаў) удалося пры гэтым 36 злавіць і расстраляць.*

*Сярод гэтых 36 знаходзілася 5 яўрэяў, 6 жанчын, у тым ліку 1 яўрэйка. 2 арыштаваных яўрэяў было застрэлена па прычыне спробы ўцёкаў.*

*15 цывільных палонных, у адносінах да якіх была устаноўлена камуністычная дзейнасць, былі таксама сёння расстраляны батальёнам. Адначасова адна рота (1.) была яшчэ выкарыстана для падаўлення забастоўкі, якая ўспыхнула ў тартаку ў Белавежы (Грудкі). Пры гэтым па прычыне падбухторвання да забастоўкі (правадыры) застрэлена 19 асоб, у тым ліку 4 жанчыны.*

*Такім чынам, сёння батальён застрэліў 72 асобы (...) За перыяд ад 25. 7. 1941 г. да 31. 7. 1941 г. батальён эвакуіраваў 34 мясцовасці з агульным лікам 6446 жыхароў.*

*Дзень і ноч афіцэры і салдаты былі на нагах, каб забяспечыць хуткае правядзенне акцыі.*

*Далучаецца пахвальная грамата, якую напісаў надлоўчы Шэрпінг — спецыяльны ўпаўнаважаны маршалам рэйха...»*

У гэты ж самы дзень 1. і 2. роты паліцэйскага батальёна 322 адкліканы былі з Белавежы зноў у Баранавічы для выканання нейкага спецыяльнага задання. У Белавежы засталася толькі 3. рота. 5 ліпеня 1941 г. паручнік Уль аднатаваў:

*«...3. рота праводзіць эвакуацыю сем'яў асоб, расстраляных у мясцовасці Белавежа дня 2. 8. 1941 г. у час правядзення гэтай эвакуацыі выселена 57 сем'яў з 169 асобамі. Апрача гэтага, у час паўторнай акцыі, мэтай якой былі пошукі банд, браканьераў і камуністычных дзеячаў у мясцовасцях Сухопаль, Мурава, Пружаны, Каралёў Мост, Салауха, Яген 710, Яген 740 (гаворыцца тут, відаць, пра адпаведныя кварталы пушчы — В. Р.), Плянта, Каменюкі, Дварышча затрымалі 2 жанчын і 39 мужчын, якіх даставілі на зборны пункт вязняў у Белавежы...*

*6 жніўня 1941 г. (...) 3. рота праводзіць пошукі ў мясцовасцях Падбела, 1, 2, 3 і Херняні (?) асоб, вінаватых у браканьерстве і камуністычнай дзейнасці.*

*У час гэтай акцыі схоплена 12 асоб, у тым 1 жанчына. Разам з асобамі, арыштаванымі ўчора, ліквідаваны 3 жанчыны і 51 мужчына...*

*Цёпла, добрая бачнасць...*

*8 жніўня 1941 г. ...3. рота злавіла ў мясцовасці Чадзель, якая знаходзіцца ў 14 км на ўсход ад Белавежы, банду (чытай: партызан — В. Р.) у саставе 19 чалавек. Былі яны ліквідаваны ў Белавежы. (...) Камандзір палка паліцыі, падпалкоўнік Монтуа ўзнагароджаны ўстужкай да Жалезнага крыжа II класа, а обервахмайстар Баўэр — Жалезным крыжам II класа...*

*9 жніўня 1941 г. ...3. рота ловіць усіх мужчын-яўрэяў узростам ад 16 да 45 год, якія знаходзяцца ў Белавежы, і праводзяць эвакуацыю з Белавежы ўсіх іншых яўрэяў...*

*10 жніўня 1941 г. (...) Нядзельны адпачынак. Сёння 3. рота правяла ліквідацыю мужчын-яўрэяў, якія сядзелі ў зборным лагеры для вязняў у Белавежы.*

*Расстраляна пры гэтым 77 яўрэяў узростам ад 16 да 45 год.*

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### ДОБРЫЯ ВЫНІКІ

Сельскагаспадарчы гурток у Паўлах (Бельскі павет) мае 4-ы трактары, ды яшчэ адзін хутка будзе куплены. Праца трактараў прыносіць гуртку найбольшыя даходы. За першае паўгоддзе 1970 года на рахунак сельгасгуртка паступіла больш як 70 тыс. зл. (см)

### 20 ГОД У ГРН

Марыя Дудар з Палічнай (Гайнаўскі павет) — заслужаны чалавек у працы рад нарадовых, бо працуе ўжо ў іх 20 год. Яна дасканала ведае працу ў радзе грамадскай, дасканала ведае ўсіх людзей і таму ведае, як паступаць у тых ці іншых справах, заўсёды звязаных з людзьмі. (хм)

### НЕ ВУЧАЦЦА КАВАЛЬСТВУ

Каваль на вёсцы неабходны. І каня падкуць, і лямеш пагастрыць, і воз паладзіць, і шмат іншых работ хапае ў гаспадароў. Кавалі пакуль што ёсць, хаця колькасць іх недастатковая. З часам будзе іх яшчэ менш. А гэта таму, што гэтай спецыяльнасці не вучацца маладыя. Бывала, калісьці кожны каваль меў па некалькі вучняў. Цяпер, на жаль, маладыя не хочуць вучыцца гэтаму «фаху», шукаюць лягчэйшых і, паводле іх, лепшых прафесій. А кавальская работа хаця цяжкая, але затое паплатная. (мх)

### МУЗЫКАНТЫ

Алік Амельянюк з Дзянісак (Бельскі павет) любіць іграць. Гэта яго гоббі. Ён бясконца толькі іграў бы. Для яго купілі бацькі гітару і ён на ёй выігрывае мелодыі розных песень. Ведаюць яго ў вёсцы ўсе і захапляюцца яго здольнасцямі. (хс)

### ХТО БУДЗЕ НА ВЁСЦЫ

На вёсцы моладзі не многа. І ў будучым, здаецца, будзе яе яшчэ менш. Амаль усе выпускнікі 8-ых класаў здавалі экзамены ў агульнаадукацыйныя ліцэі, тэхнікумы і рамесныя школы. Напрыклад, у вёсцы Паўлы 17 чалавек закончыла 8 класаў, і з іх толькі трое засталіся працаваць на гаспадарцы, у Гарадку 34 закончыла, а застаўся адзін хлапец, бо ўсе будуць вучыцца далей. Падобная сітуацыя і ў іншых школах. (хх)

### НА НАРВЕ

У кожную нядзелю на рэчку Нарву ў ваколіцы Плёсак прыязджае многа людзей з Беластока і з Бельска Падляшскага. Даезд сюды добры, бо вельмі многа аўтобусаў ПКС ездзіць на гэтай трасе. Ды і сваім транспартам — веласіпедамі, матацыкламі і легкавымі машынамі, — даязджае таксама шмат людзей. Бельскі ГС давозіць сюды харчовыя прадукты, а перш за ўсё напіткі.

А рэчка тут добрая, бо ёсць і глыбейшыя і больш плыткія месцы. Добра тут і тым, якія не ўмеюць плаваць. (мх)

### НЕПАРАЗУМЕННІ

У Малінніках у мінулым годзе адбылася камасацыя зямлі. Былі ліквідаваны назаўсёды вузкія палоскі, доўгія межы і разоры. Гаспадары засеялі сельскагаспадарчыя культуры на шырокіх «калёніях». Працаваць стала лепш.

Але не ўсім падабаюцца надзелы зямлі. Некаторыя адчуваюць сябе пакрыўджанымі і наракаюць на землямера, бо хацелі б атрымаць іншыя палеткі зямлі. Гэтых пакрыўджаных, на шчасце, не многа. (мм)

### ПАЎКАЛОНІІ

Многія школьнікі падчас канікул адпачываюць у гарцэрскіх лагерах, у лагерах розных прадпрыемстваў і ўстаноў. Апрача таго, у памяшканнях многіх школ арганізаваны «паўкалоніі», у якіх дзеці данай мясцовасці ўдзень прабываюць і належна адпачываюць пад вокам настаўнікаў, часта сваіх выхавацеляў, а нанач ідуць дамоў. Арганізаваны паўкалоніі таксама ў школе ў Гарадку, дзе многія школьнікі вельмі цікава і займальна праводзяць канікулы. (мх)

### АГУРКІ

Нідзе няма столькі агуркоў, колькі ў Плёсках, Дзяніcках і Цялушках, што ў Бельскім павеце. Там кожны гаспадар мае цэлыя плантацыі агуркоў. І хаця пры іх доглядзе шмат работы, але затое даходы з іх вялікія. Першыя агуркі заўсёды вязуць гаспадары гэтых вёсак у Беласток на продаж. Забірае таксама іх і бельская «Вітаміна». А ўжо засольваюцца там агуркі цэлымі бочкамі. Гэтыя бочкі некаторыя жыхары Цялушак затопліваюць у рэчцы Нарве, а зімой яны, як свежыя, вельмі смачныя. (мх)



*Шчыт хаты Анастассі Келбашэўскай з вёскі Крыніца, Гайнаўскага павета.*
*Фота — Я. Цялушэцкі*



*Самадзейнікі з Палічнай.*
*Фота Мікалай Панфілюк*

### ХТО БУДЗЕ ВУЧЫЦЬ У ЦІСОЎЦЫ?

Цісоўка — адна з найдалейшых вёсак на ўсходзе Беластоцкага павета. У вёсцы ёсць чатырохкласная школа з адным настаўнікам. Там навучалася беларуская мова і ўсе дзеці любілі яе і добра вучыліся. Настаўнік Аляксей Пачкоўскі, які там вучыў, адыходзіць на пенсію — на заслужаны адпачынак. Ад восені будзе ў Цісоўцы новы настаўнік. Жыхары вёскі хацелі б, каб павятовы аддзел асветы ў Беластоку прыслаў настаўніка такога, які б мог вучыць і беларускай мове. Пайшлі слухі, што будзе накіравана ў Цісоўку настаўніца, якая зусім не ведае беларускай мовы. Людзі непакояцца. (СС)




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Неўзабаве мне скончыцца 18 год. Люблю я вёску і працу на гаспадарцы, таму і вырашыла застацца дома. Ніколі не пісала да цябе, аднак здарылася такая сітуацыя, што вырашыла і я прасіць тваёй парады.

У нас нядаўна адбыўся фэстын, які арганізавала БГКТ. Было цудоўна. Моладзі прыехала шмат, нават з вельмі далёкіх ваколіц. На забаве папрасіў мяне гуляць вельмі прыгожы і прыстойны хлапец. Мне ён адразу вельмі спадабаўся, я толькі і чакала, каб ён прыйшоў і папрасіў мяне гуляць. Відаць, і я яму таксама спадабалася, калі мы прагулялі цэлы вечар. Мае сяброўкі зайздросцілі мне, што я спадабалася такому прыгожаму хлопцу. Толік (бо так яго клічуць) абяцаў, што прыедзе да нас на чарговую забаву і абавязкова сустрэнецца са мною. Гаварыў мне цэлы вечар, што я прыгожая, прыгожа танцую, ды што маю прыгожыя, вялікія, сінія вочы. Я не ведала, што на гэта адказаць, але вельмі цешылася, бо першы раз сустрэла хлопца, які так міла і прыгожа гаварыў. Цэлы вечар я не чула ад яго брыдкага слова, што вельмі рэдка здараецца на нашых забавах. А Толік жа ж таксама вясковы хлапец, але ён іншы, ён далікатны, мілы, сімпатычны. Усё думаю пра Толіка, а кожную ноч ён мне сніцца. Не ведаю толькі аднаго, ці сапраўды можна паверыць Толіку, ці сапраўды ён прыедзе да мяне? Ён жа такі прыгожы, а дзяўчат прыгожых таксама нямала. Чаму выбраў мяне? А што будзе, калі ён мне салгаў, іншыя ж ашукваюць? Мне і радасна і сумна, таму і прашу цябе, Сэрцайка, напішы, што ты на гэта ўсё скажаш. Дзякую.

*ІРА з Гайнаўшчыны*

ІРА! І я твой ліст чытала з прыемнасцю. Паверыла і ўявіла сабе Толіка — як мілага, сімпатычнага, далікатнага хлопца. Як было б премна, каб такіх пісем было штораз больш, каб штораз больш пісаць аб мілых і культурных паводзінах нашых вясковых хлопцаў. Бо дзявочыя маладыя сэрцы ўражлівыя, чуллівыя і рамантычныя.

Пытаеш, ці можна верыць Толіку? Ці ён прыедзе? Чаму выбраў цябе? Вельмі многа пытанняў. То праўда, што ёсць многа прыгожых дзяўчат, але таксама праўда, што адна з іх заўсёды з'яўляецца найпрыгажэйшай, таму вось Толік выбраў цябе. Прыгажосць — толькі на першы погляд, потым уступае яна месца іншым добрым якасцям у чалавека. Ці верыць, ці не верыць, — гэта трудна вырашыць і табе, а тым больш мне. Проста чакай, час вырашыць і скажа табе найлепшую праўду. Ды думаю, што для цябе гэтае чаканне таксама прыемнае, бо прыемныя ўражанні і ўспаміны таксама трываюць доўга.

*Сэрцайка*

*Пахмурна, дробны дождж.*

*11 жніўня 1941 г. Закватэраванне без змен (...) 3. рота ў Белавежы. 1 яўрэйскі вязень і 2 сыны беларускіх сялян былі расстраляны ў Альхоўцы адным узводам 3. роты па прычыне грабяжу.*

*У ходзе датыхчасовых акцый батальён выстраляў паводле стану з дня 11. 8. 1941 г.:*

*1104 штукі вінтовачнай амуніцыі;*

*475 штук пісталетнай амуніцыі — 0,8;*

*576 штук пісталетнай амуніцыі — 7,65;*

*575 штук амуніцыі да аўтаматычных пісталетаў МР 34.*

*Лік сапраўды выстралянай амуніцыі з'яўляецца на многа вышэйшым, а гэта таму, што руская амуніцыя, выстраляная з рускіх вінтовак, не бралася на інвентарны ўлік і таму не было магчымасці палічыць яе...»*

Вось гэта называецца германская дакладнасць! Толькі супраць каго, з якім ворагам яны так змагаліся ў глыбокім тылу, што аж столькі спатрэбілася для іх выстраляць смерцяносных патронаў? Ніхто ж з нашых мясцовых жыхароў іх не кранаў, нікому з паліцэйскіх нават валасок з галавы не зляцеў, а яны... бы за зайцамі... тысячы патронаў расстралялі.

*3. рота заставалася яшчэ ў Белавежы да 22 жніўня 1941 г. Адпачываць ёй не дазвалялі. Яна заўзята «працавала», а нязмучаны паручнік Уль сціпла запісваў:*

*«14 жніўня 1941 г. ...3. рота ў акцыі на ўсход ад Белавежы, у наваколлі Сухаполля, шукае ўзброеных бандаў (чытай: партызан — В. Р.) па прапанове павятовай камендатуры ў Пружанах. Пошукі, праведзеныя супольна з вайсковымі падраздзяленнямі, прайшлі беспаспяхова...*

*15 жніўня 1941 г. ...3. рота праводзіць акцыю супраць яўрэяў у Нараўцы Малой. Перaселена ў Кобрын 259 жанчын і 162 дзяцей.*

*Расстраляны былі ўсе мужчыны — яўрэі ўзростам ад 16 да 65 год (282 галавы) і 1 паляк па прычыне грабяжу.*

*Цёпла, добрая бачнасць.*

*18 жніўня 1941 г. ...3. рота праводзіць акцыю ў мясцовасцях: Нараўка Малая, Лука, Нараўка Старая, Новае Ляўкова, Стары Бор, Палыне (?), Тарнопаль. Мэта акцыі — пошукі вінаватых у рассяванні камуністычнай прапаганды.*

*Злоўлена і расстраляна 26 асоб.*

*Цёпла, добрая бачнасць, сонечна.*

*Адзнакі для членаў палка паліцыі «Сярэдзіна» за геройства ў акцыі супраць ворага...»*

*19 жніўня 1941 г. ...3. роту падмяняе ў Белавежы 323 батальён паліцыі (...) Такім чынам, цэлая акцыя батальёна (322 — В. Р.) ў раёне Белавежы была закончана».*

Крывавы батальён астаткова перабазіраваўся ў Беларусь і разносіў смерць у раёнах Баранавіч, Картуз-Бярозы, Мінска, Магілёва, Смаленска, Слуцка і іншых гарадоў. Заставаўся ён там да мая 1942 года. Затым адаслалі яго ў Катавіцы на адпачынак, а пазней — у Югаславію.

*Віктар Рудчык*

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Naczelnik Czukotki” (radz.), 28—29. VII „Nie drażnić cioci Klementyny” (30—31.VII. „Raj na ziemi” (polski), 1—2. VIII.

**Нараўка**

„Słońce obcego nieba” (jugosł.), „Włoch w Argentynie” (włoski). 29.VII—2.VIII.

**Нарва**

„Adolf” (franc.), „Wniebowstąpienie” (polski), 29.VII—2.VIII.

**Чыжы**

„Dzika Elżbieta” (czeski), „Tylko umarły odpowie” (polski), 29. VII—2.VIII.

**Дубічы Царкоўныя**

„Milion lat przed naszą erą” (ang.), „Tylko jedno życie” (radz.), 29.VII—2.VIII.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Koniec agenta W4C” (jugosł.), „Szósty lipca” (radz.), 29.VII—2. VIII.

**Орля**

„Lalka” (polski), „Polowanie na mężczyznę” (franc.), 29.VII—2. VIII.

**Райск**

„Morderca na zawołanie” (NRD), „Zwariowałeś Toni” (czeski), 29. VII—2.VIII.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

„Ostatni lot” (radz.), „Cierpienia małego Bohaczka” (czeski), „Polcwanie na muchy” (franc.), 1—2.VIII.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Ziemia aniołów” (węgierski), 28—29.VII. „Śpiewa Ywes Montand” (radz.), 30—31.VII. „Paragon gola” (polski), 1—2.VII.

**Янаў**

„Płomień nad Adriatykiem” (jugosł.), 29.VII—2.VIII.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Casanova znad Dunaju” (węgierski). 28.VII—29.VII. „Zwiadowca” (radz.), 30—31.VII. „Czekam w Monte Carlo” (włoski), 1—2. VIII.

**Мельнік**

„Mroźny poranek” (radz.), „Kopciuszek w potrzasku” (franc.) 29.VII—2.VIII.

**Мілейчыцы**

„Chewsburska ballada” (radz.), 28—29.VII. „Dziewięciu małych Indian” (ang.), 30—31.VII. „Szkice warszawskie” (polski). 1—2.VIII.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 5693 W—3



 

